*Алесь Пашкевіч нарадзіўся*
*11 верасня 1972 года ў вёсцы*
*Набушава Слуцкага раёна.*
*Скончыў Вясейскую сярэднюю*
*школу. У 1989 годзе паступіў на*
*філалагічны факультэт БДУ.*
*Працуе намеснікам галоўнага*
*Рэдактара часопіса «Першацвет».*
*Друкаваўся ў часопісах «Полымя»,*
*«Першацвет», «Зрок», альманаху «Дзень паэзіі».*

*И видечи таковые пожиткы в так малой*
*книзе, я... повѣлел тиснута... словенскым*
*языком...*
*наболей с тое причины., иже мя милостивый*
*Бог с того языка на свет пустил.*

Францыск Скарына

Калі сірочая сляза
сцячэ на дымкія пракосы
і на расплеценыя косы
узляжа востры бляск ляза,
закончу я сваю малітву.
ГАСПОДЗЬ, багаславі на бітву!

Першая кніга паэта

**Алесь Пашкевіч**

# ***Нябесная сірвента***

вершы

Мінск «Мастацкая літаратура» 1994 г.

ББК 84(4Беи)6
П22
УДК 882.6-1

Серыя заснавана ў 1968 г.

Прадмова
*Алега Лойкі*

8820600000—110
П ________________________________ 59—94
М 302(03)—94

ISBN 5-340-01419-3


## ВЯРТАННЕ Ў НЯПРОЙДЗЕННАЕ

Паэзія павінна ўражваць. А вершы Алеся Пашкевіча ці ўражваюць? Канешне, уражваюць, як, напрыклад, верш «Нябесная сірвента», які І даў назву першаму зборніку маладога паэта — назву таксама ж адметную, дасюль у беларускай Паэзіі нячутую. Сірвента!

Слуцкае Набушава і, няйнакш, як гішпанская сірвента, вельмі ж яны ўсё ж не вяжуцца паміж сабою, як і вытанчаная форма элегіі, малітвы, трыялета, арыі, якімі напоўнена першая кніжка маладога паэта, і літаратурна-рэмінісцэнтныя ў ёй купалаўская жалейка, патрыятычныя малітвы паводле Францішка Багушэвіча, паводле Каруся Каганца. Не вельмі таксама стыкоўваюцца ў кнізе лацінамоўнасць асобных назваў вершаў («Exsistentia»), асобных эпіграфаў («Quae medicamenta non sanat ferrurn sanat, quae ferrum non sanat iqnis sanat!..» — «Чаго не вылечваюць лекі — лечыць жалеза; чаго не лечыць жалеза — вылечвае агонь!..») і біблейскія вобразы і матывы Адама, ave, Пана Бога, Збавіцеля, апакаліпсіса, уваскрасення ў суседстве з Перуном, русалкамі, кажанамі, Купаллем. Тут ужо можна, згадаўшы, што Алесь Пашкевіч — выпускнік філалагічнага факультэта, залямантаваць: «Га!.. То ж зноў філалагічнае пакаленне!..» Але калі браць па вобразнасці, то гэтаксама можна аднесці маладога паэта і да гісторыка-універсітэцкай адукацыі. І тут хоць называй паэта прадстаўніком гісторыяграфічнага пакалення, бо ў яго ж дастаткова і вобразаў з гісторыі нацыянальнай, гісторыі чалавецтва ўвогуле.

Ды ўсё ж Алесь Пашкевіч — найперш літаратар, а больш дакладна сказаць — творца, з пачуццём сябе ці вайдэлотам, ці бардам, ці друідам,— песняром менавіта песні ваяцкага ладу. Бо жанр сірвенты ён разумее менавіта як жанр песні на ваяцкі лад, песні старажытнасці, дзе праслаўляліся крывавыя жахі войнаў, дух змагання, ваярская чыннасць.

У зборніку Алеся Пашкевіча, аднак, дарма шукаць услаўлення крывавых жахаў вайны. Паэт панад зямной сірвентай — са сваім болем за пакутную Радзіму, у шуканні свайго месца ў мужным шыхце яе сыноў — з радкамі любові да Белай Айчыны, са словамі кахання да беларускай дзяўчыны. Паверым у гэтыя словы!

Але пакуль што ў зборніку маладога паэта больш «кахання да беларускай дзяўчыны», чым ваяцкасці. І гэта — заканамерна. Паэт больш арганічны ў вершах традыцый Поля Верлена («Каштанавая арыя»), Уладзіміра Жылкі («***Разбіла поўня бубнам ціш...», «Апакаліпсіс», «***Чырвоным сарказмам істужак...», «Развітальны напеў»), Уладзіміра Хадыкі («Ружы», «Тварэнне свету»). Ён, малады беларускі паэт канца XX стагоддзя, такім чынам як бы больш у канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў: недзе на ўзроўні новапарнаскасці Поля Верлена, з якой пачыналіся еўрапейскі сімвалізм, мадэрнізм, у тым ліку і мадэрнізм беларускі — купалаўскі, багдановічаўскі, а затым і падкупалаўцаў — Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Уладзіміра Жылкі.

«Дык мы ўжо гэта праходзілі!..» — зноў жа можа тут выгукнуць паспешлівы крытык, заўважаючы і пэўную эклектыку ў вобразнасці маладога паэта. Але на тое мы адкажам: «Не так праходзілі, як толькі пачыналі праходзіць».

Законы ж развіцця паэзіі няўмольныя. Пустак — «паветраных ямаў» — не церпіць і прырода паэзіі: яна павінна звярнуцца да іх запаўнення, каб рухацца далей — у рэчышчы сваіх аўтахтонных законаў. Паэтычная моладзь, нядзіва, што найвастрэй тое адчувае. І яна, як Алесь Пашкевіч, і вяртаецца сёння на непяройдзеныя палосы. Тут яе поле дзейнасці. І не адно.

Поле першае — новапарнаскае, французаў і нашага «Узвышша» 20-х гадоў; поле другое — асацыятыўнай раскаванасці; поле трэцяе — дзе паэтычнае мысленне трансфармуецца ў паэтычнае бачанне свету, блізкае адначасова і да сярэднявечна-рэлігійнага, і да анталагічна-элінскага, і язычніцка-друідскага, і беларуска-язычніцкага.

Не ўсё яшчэ арганічна згарманізавана ў стылі маладога Алеся Пашкевіча, але што тэндэнцыя абазначана, гэта факт. З 60-х гадоў пачалося ў нас так званае вяртанне зораў — вяртанне ў нашу паэзію ў сённяшнім беларускім вобліку шэдэўраў мастацкага развіцця Беларусі Сярэднявечча, што ўзніклі на мовах лацінскай, старабеларускай, старапольскай. І вось новы этап вяртання — са зваротам да непяройдзенага нашай паэзіяй дзеля выхаду яе ў новы дзень, які мажлівы толькі пры поўным выроўніванні беларускай паэзіі ў шэрагах нацыянальных паэзій свету. І што малады Алесь

Пашкевіч пачаў рабіць гэтую справу не без поспеху, пра гэта сведчаць у яго першай кнізе хоць бы такія арыгінальныя, зграбныя вершы, як «Уваскрослы голас», «***Выйшла наўе з забытых магілаў…», «Ключ», «Нябесная сірвента», «Таўро», «Чаканне героя», «Зеленавокай». Першы з іх — найбольш праграмны. Праграмны ўжо сваёй арыентацыяй на «ўнукаў бадзяг», «сыноў безгалосых», «братоў безайчынных», «сіротаў надзей», гатоўнасцю да сцвярджэння сваіх ідэалаў усім сваім маладым дзейсным жыццём. Чаканы маладым паэтам герой з яго паэзіяй уласна ўжо і ідзе да нас: чаканае цераз лірычнага героя паэтычнай кнігі Алеся Пашкевіча для нас становіцца явай. Дык дзякуй Богу!

*Алег Лойка*

**ЖАЛЕЙКА**

*Можа, хто з дзетак скруце жалейку*
*унучку паломанай ліры…*
Цётка

*Я ізноў заснуўшую было жалейку*
*бяру і пробую ў ёй галасоў:*
*ці хопіць сьветлых, звонкіх думак-слоў,*
*ці гладка пойдзе песьня-дабрадзейка?*
Янка Купала

Разбітымі чоўнамі лісце
жальбуе на восеньскім моры.
Шукаю, як з цемрадзі выйсце,
святла, на мінуўшчыну хворы…

У слёзах далёкі дзядуля
жалейку хацеў змайстраваць мне,
ды доўга шчэ ў скрусе зязюля
свой голас самотны шукацьме.

… Дрыготка адрэзваю голле,
а дудку зрабіць я не ўмею.
Жалейкавым спевам у полі
палын адзінокі квітнее.

## УВАСКРОСЛЫ ГОЛАС

Унукі бадзяг, узніміце галовы.
Зноў плюнуць у твары святлом ліхтары,
заскаліцца смерць, вам рыхтуючы ловы,
шакаламі ўзвыюць пустыя двары.

Сыны безгалосых, будзіце мальбою,
як звонам кавальняў, як громам падкоў.
Жыццёвая рыфма вас кліча да бою,
у попеле зорным спіць помета вякоў.

Браты безайчынных, у спадчыне свету
ваш скарб разакралі кішэні вятроў.
Зланцужылі цела маўчаннем паэту,
сляпыя вачніцы запоўніла кроў.

Сіроты надзей, рукі стогнуць у брудзе,
і збройны нашчадак рыхтуе праклён.
Блакіціцца поле, што жахі забудзе,
кальчугу прабітую латае лён.

* * *

*Не давайце святыні псам...*
З Бібліі

Чырвоным сарказмам істужак
зацягнуты іканастасы.
У прыцемках тысячы служак
збіраюць згалелыя класы...

Пачокаўся звон на званіцах,
і выкуліў келішак купал...
Разбіўся ў п'янкіх зараніцах,
зацягнуты іканастасы.

Паранены крыж дагарае
падсечанай свечкай на волі.
І дым шчэ кружляе над краем,
між хмар ваўкалакам сваволіць.

1990

* * *

Адрачыся штодзённага тлуму
і пачуй над краінаю плач.
Ноччу ў царстве праклятага суму
ятаганіцца здзекам кумач.

Гэта месяц — узброены ратнік —
хмарам пора наўкол жываты.
Паглядзі на нябесны нататнік—
зоркі плачуць сярод нематы.

Перагорне світанак старонку,
фіялетам распішацца дзень.
Плач не сціхне: імчыць наўздагонку
смерталёзнага месяца цень...

**КЛЮЧ**

Ізноў у стрэмя — прымі, абшар!
Палае ў сэрцы юнацкі жар.
Круцель-вятрыска заве на бой.
З грудзей замкнёных ірву прабой.
А ключ згубіўся… На дне крыніц,
у ззянні стромкіх начных зарніц,
у млосным суме бадзяг буслоў,
у вольных гуках закутых слоў,
у мужнай сіле былых сыноў,
у мроях замкаў, у бурах сноў,
у звонкіх песнях, што несла Случ, —
Той ключ.

## EXSISTENTIA

З вачэй Адама я піў цяпло,
з бярвён смалістых рабіў жытло.
Ласкавы голас мяне кружыў:
— А я ўжо жыў...

Як я крывавіў мячом грахі,
узлеглі крушні на ўсе шляхі.
Дрыготкі голас мне зноў служыў:
— А я ўжо жыў...

Калі народ мой пакінуў рай,
сышла расплата на ціхі край.
Гаротны голас са мной тужыў:
— Навошта жыў?

Жаўрук больш песняй не будзіць луг,
палын іржавіць зламаны плуг...
Прарочы голас наваражыў:
— А ты ж не жыў...

## НЯБЕСНАЯ СІРВЕНТА[1]

Калі сірочая сляза
сцячэ на дымкія пракосы
і на расплеценыя косы
узляжа вострым бляск ляза,
закончу я сваю малітву.
ГАСПОДЗЬ, багаславі на бітву!

Каваль з адсечанай рукой
падорыць стомленыя похвы,
разбіты шлем ды меч, што змог бы
і без крыві знайсці спакой.

Душу на горан ускладу,
з'яднаўшы дух і боль жалезам,
ды на курган з самотным бэзам
з падковай зробленай прыйду.

Мой конь раструшчыць цішыню
на сонных кветках зверабою...
ГАСПОДЗЬ, дай зорнай моцы вою,
дай неўміручасці каню.

[1] Сірвента — песня на ваяцкі лад у старажытнасці.

## ВОРАГАМ

Вы не параніце каня:
на ім шчэ стрэмя.
Яшчэ разбудзіць ранак дня
адважных племя.

Вы не астудзіце мяча:
гарыць крывёю
лязо сталёвага пляча,
бы вочы воя.

Вы не прымусіце мяне
закрыць прылбіцу[2].
Абманам сэрца не міргне.
Згарыць зарніца...

Калі ж душа аб стогн грудзей
скрывавіць крылы,
я не хачу, каб плач людзей
кранаў магілы.

## ВЕЧНЫ ШЛЯХ

У возеры тонуць агністыя коні,
запальваюць грывы зіхценнем ваду,
між хваль расплываюцца зорныя скроні —
падковы сузор'яў, што зычаць бяду.

Хаваецца сонца ў туман небасхілу,
ліхтарыкам свеціць у вочы вады.
І векі ад ценяў захоўваюць сілу,
каб потым раскрыцца святлу праз гады.

Закінуты човен спяшае да сонца,
разгойдвае цені стамлёным вяслом.
Калючкамі ў шлях угрызаецца стронцый
над страхам і стомай, пад хмарай і зло.

Лілеі скрываюць мой шлях адзіноты,
стырно не круцілася тысячы дзён.
Спяшаюся ў край разумення і цноты,
пакуль яшчэ сонца кавалак відзён.

---

[2] Прылбіца—частка рыцарскага шлема, якой закрываецца твар, каб засцерагчыся ад udараў.

## ТРЫЯЛЕТ КАХАННЯ

Ты мяне за сабой пакліч
у нектарны прытулак вуснаў,
нацяжэннем нервовых гусляў
ты мяне за сабой пакліч.
І ў абдымках цямрэчы скрушнай,
калі лучнасць асвеціць Зніч,
ты мяне за сабой пакліч
у нектарны прытулак вуснаў.

## ТРЫЯЛЕТ КАХАНАЙ

Забяру цябе я ад святынь прыроды
і ў свае далоні кветкай пасаджу.
Папрасіўшы ў спёку для жыцця дажджу,
забяру цябе я ад святынь прыроды.
Трыялета музай зноў і зноў скажу:
«Для пялёсткаў-вуснаў любаснае згоды
забяру цябе я ад святынь прыроды
і ў свае далоні кветкай пасаджу».

## ТРЫЯЛЕТ БЕЗ КАХАННЯ

Не сыходзь, разлюбіўшы, адразу
у засцелены сном небакрай,
стурбаванай душы не карай:
не сыходзь, разлюбіўшы, адразу.
Лепей потым пакінем свой рай,
дачакаўшыся з высяў адказу.
Не сыходзь, разлюбіўшы, адразу
у засцелены сном небакрай.

## РАНІШНЯЯ ПЕСНЯ

*Запалі агні,*
*каханая мая...*
З песні

Яго Правялебнасцю лёсам
душа на кавалкі разбіта.
Кпіць з месяца зорнае сіта,
а той выхваляецца носам.

Ваўчыцамі скаляцца зоры,
клыком раздзіраючы грудзі.
А ўнізе наіўныя людзі
у ноч пасылаюць дазоры...

Бялее дарогай да Храма
істужка ад Млечнага Шляху.
Сутонне нябеснага даху
малюе аконная рама.

Аблокі шукаюць фурмана,
каб змог нам прывесці світанак.
Зноў цёмна на свеце... Мой ранак
запаліць газніцу рахмана.

## У ВОКНАХ

Зноў мройна бачу, быццам сон:
у рабацінні ад дажджынак
пенснэ драўлянае вакон.
Зіхоткі серп праз зорак лён
сукенкі хмар нясуць з дажынак.

Сплятае znічкі ў косы вецер,
нібы грабеньчык, гнецца плот.
А вуліцы шчарбаты рот
складае шчыры верш аб леце.

Туман разбэрсвае наміту,
пад небасхілам — пожні след
з заломамі сцяблін блакіту.
Бы ў сне, гляджу ў адвечны свет
са сценаў гарадскога скіту...

## ЖАДАННІ

Я хацеў адкрыць вочы-
асляпілі іх жахі.
Я хацеў уздыхнуць—
разарваліся грудзі.
Я хацеў адзіноты—
неба згрызлі мне дахі.
Я хацеў пакахаць—
ссурочылі людзі.
Я хацеў гаварыць—
загубіліся словы.
Я хацеў памаўчаць—
сэрца трызніла воляй.
Я хацеў недажыць,
каб пакутаваць болей...
Я аддаўся журбе,
перажыўшы сябе.

## ЦВІК У СТОЛЬ

*Прысвячаю Сяргею Палуяну*
*і Сяргею Ясеніну*

Цвік у столь...
Праз разбітае шкло
холад грудзі кране.
Стаў цягнік,
і жыццё адышло
у шматкроп'е крыві на акне.

Пульс крыві.
Драцяная пятля
шыю лашчыць іржой.
Ціш у роце,
званок-немаўля
скрыжаванню сплятае павой.

Шпалаў бег.
Пераезд праляцеў
семафораву сінь.
Стань пабліз,
хто такога хацеў,
і пад колы няўпэўненасць кінь...

## ПАЭТЫ

Паэтаў запальваюць зоры.
Паэтаў нараджвае боль.
Маркоціцца ветразь на моры,
і неба над бухтай — як столь...

Паэтаў запальваюць слёзы.
Паэтаў нараджвае Бог.
Тырчаць праўдазгубныя лёзы
у творы, што здрадзіць не змог...

Паэтаў запальваюць людзі.
Паэтаў нараджвае кроў.
Свінцом разарваныя грудзі
маўчаць у святых змагароў.

Над вечнаю хатай паэта
пустэльна гучыць некралог.
Душа толькі воляй сагрэта,
дзе зоры, і слёзы, і Бог.

## АКРАВЕРШ КАРУСЮ КАГАНЦУ

Калі з апошняй сілаю ганца
Агорне дзень у боскім цудзе,
Гаротны шлях падыдзе да канца,
Агонь святы гарэць паходняй будзе.
Народзіцца з вугалля сын Карусь
Цямрэч прарваць святлом ад каганца,
Узняць з нябыту маці-Беларусь...

## ВАЯРСКАЯ МАЛІТВА

Хрысце Усемагутны, Слуга пакут!
Не дай трупе счарніць наш бялюткі кут,
не дай адчуць на целе гадзюкі пут.

Нашчадкаў прагных здрады агнём скалеч,
кладзі дрыўмі жывымі ў магілаў печ,
у жар — жалеза святасць. І скуй нам меч.

Устаў крыніцы ў цела на месца вен
і дай адвагі край нам узняць з калень,
дай сіл упасці вольным на катаў тлен.
Амэн!

## СМЕРЦЬ

Запляваная студня вадою
мне сіл не прыбавіць,
а згарэлае сонца журбою
мне вочы крывавіць.
Боль пячэ мае збітыя ногі.
Крочу ценем па целе дарогі.

Не прыйду са шчытом: смерць і раны
дух астудзяць бяззбройнасцю злосці.
Згіне цемра, і шляхам абраным
на шчыце данясуць мае косці.
Пройдзе час, і той шчыт неўзабаве
жвір засыпле ў знявечанай славе...

## СУЧАСНАЯ ІЛІЯДА

Як жалобныя кулі ў жывот аўтамата,
пакладу батарэі... Касета заскача.
Фанаграмна шалеючы музыкай плача,
пашыбую па вуліцы спеву і мата.

Зноў не лаўраў вянок ускудлачвае
памяць,
а знаходлівы плэер сціскае мазгі мне.
У сваім развітальна-распісаным гімне
захмялелыя лаўкі пустоту запаляць

Хлопец-гмах пазаве закурыць напачатку,
цыгарэтамі бліснуць таварышы збоку.
І замроіць цямрэч ліхтароваму воку,
як абмочвае кроў скураную пальчатку...

Ад свінца не схаваюцца вусны кагосьці,
густа зрэжацца снег аб гарачы сцізорык.
Зазімую, не ўбачыўшы радасці зорак,
покуль плач журавоў не запросіць
у госці.

Я з'яўлюся на золку. Чакайце вар'ята
пратаптанае волі, азызлай крывёю.
... Насміхаецца месяц над голай зямлёю,
укладаюцца кулі ў жывот аўтамата.

## ТАЎРО

Мы здзічэлыя маўры[3]
у абдымках слязы.
Нашы зжухлыя лаўры—
цень балотнай лазы.

Над бажніцамі нашча
вецер трэбу збярэ,
запусцееецца пашча
аканіц на двары.

Ад змярцвелага саду
заслязяць гарчакі,
і захмараць асаду
зорных пушч ганчакі.

Сонца жыць расхацела
пад бусловым крылом.
На пакутнае цела
лёг чарнобыль таўром...

## СВЯТЫ КАСЦЁР

Спеў падкоў, плач званоў і адчай.
Д'ябал прагны па душы ідзе.
Здрады край, ты сынам выбачай,
нас Анёл не пакіне ў бядзе,
Ave Радзіма.

Мы памерлі. Ты стала святой,
і надзею на вечнасць пакінь.
Ты — манахіня. Боль і спакой,
чорны стан некранутых святынь—
Ave Радзіма.

Толькі розніўся з ёю адным —
ты згубіла цноту сваю.
І таму над галовамі дым
і ў агні я з табою стаю,
Ave Радзіма.

[3] Маўры — еўрапейская назва карэннага насельніцтва Паўночнай Афрыкі ў старажытнасці і ў сярэднія вякі.

## ВОДГУЛЛЕ

Ты пляла з белых ружаў вянкі,
ахінала душу нематой.
І вянчаліся згодай вякі
у асенняй гульбе залатой.

Вецер гнаў ад далоняў лісты,
пакідаючы сумную ціш.
Я не ведаў тады, што і ты
з маіх рук, нібы птушка, ўзляціш.

Сядзеш раптам у змрочны трамвай,
не адкажаш на словы мае...
Непачутага ў цемры «бывай»
мне й цяпер у вясне не стае.

## РУЖЫ

... І пунсовыя вохкія ружы
адагрэла ў далонях яна.
Неўтаймоўная дзікая сцюжа
ад майго адступіла акна.

Кажанамі зляталіся цені
на святло з яе ворсістых век
і садзіліся мне на калені,
як згарэлыя відмы калек.

Потым іскры вачэй мільгатлівых
праглынуў прагна снег прасціны
пад ускрыкі завей і пад кпіны
загулялай і п'янай зімы.

Валасоў замяцеліўся кужаль.
Стыглі думкі ў цяжкой галаве.
А пунсовыя вохкія ружы
засыхалі на брудным стале...

## КАШТАНАВАЯ АРЫЯ

Жыццё — каштанаў паліць свечкі
на дні народзінаў зямлі.
На караваі кронаў — з печкі
вясна раскідвае агні.

Кладзецца накрыўкай суквецце
на плечы голыя зімы.
Лаўровае шукаем смецце
на лбы злыселыя і мы.

Дажджом святло грукоча ў дзверы,
і хмарны пух зрывае дзень.
А твараў мятыя паперы
хавае парасонны цень...

## НА КУПАЛЛЕ

Агонь праменіць светач ночы,
у цноце рэчкі тонуць вочы.
І мы з табою доўжым свята.
Духмяніць і чаруе мята...

Вянок абдымка, збіўшы росы,
расквеціць нам світанак босы.
Падушка траў Купаллем змята,
духмяніць і чаруе мята...

Успыхнуў сцягам сонца ранак.
На пералесак, як на ганак,
змятае змрок старая хата.
Духмяніць і чаруе мята...

Схмялела ноч напоем зёлак,
на вуснах усміхнуўся золак.
А сэрцы нашыя заўзята
духмяніць і чаруе мята...

## ЗЕЛЕНАВОКАЙ

Зямля буяла сон-травой,
калі спаткаліся з табой.
Спяшыла ты схаваць хутчэй
зялёны бляск сваіх вачэй...

На разнатраўе дывана
пусціла, юных, нас вясна.
Знік сорам рэхам баравым,
і вецер зняў з вуголля дым.

Салодкім сном накрыўшы нас,
заварушылі цені вальс,
кружылі на букетах траў,
пакуль іх золак не сабраў.

... Паслеплі зоры ў вышыні,
згарэла поўня на агні.
І мне застаўся ад начэй
зялёны бляск тваіх вачэй.

## У ЖНІЎНІ

Чароўна-марозіўны трунак
у жніўні ўзбіваюць аблокі.
Пакутнаю прагаю спёкі
на вуснах заснуў пацалунак.

Букеціцца лёс васількамі,
як поглядам мройным каханай
то ў сінь па сцяжыне абранай
кладзецца ручнік паміж намі.

Чароўна-марозіўны трунак
узбілі на небе аблокі.
Твае таямнічыя крокі
збудзілі ад сну пацалунак...

* * *

У бяззорную ноч прыляці да мяне
матыльком на святло запальнічкі.
І як цень тваіх крыл мае рукі кране,
раздажджацца на ростанях знічкі,
а вясной кветкі зноў заварушацца ў сне
на далонях зламанае дзічкі…
У бяззорную ноч прыляці да мяне
матыльком на святло запальнічкі.

**СУСТРЭЧА**

Аглушаны грома разрывам,
абсечаны лейцамі ліўня,
стаяў Ён над цёмным абрывам,
як цень абламанага біўня,
як стод, які скідвалі ў рэчку…
Хацеў ужо сам нахіліцца…
Ды раптам зіхоткую свечку
на дубе ўзняла навальніца.
Здзіўленне кранулася твару,
калі Ён у зрэнцы рачулкі
убачыў, як сходзіла з хмары
Яна… І адчуў пацалункі…
Растрос вадаспад сваю грыву—
і Ён адышоў ад абрыву.

* * *

Пекныя дзеванькі, дзе вашы косы?
Вочкі — зласлівыя дзікія восы,
вусны — вішнёвая спелая мякаць.
Толькі чаму ж вам даводзіцца плакаць?

Ценем кладуцца ля спешчаных хмарак
фарбы зіхоткія імпартных марак.
Позірка вартыя белыя росы...
Пекныя дзеванькі, дзе вашы косы?

* * *

Пастух-вятрыска ўмела загнаў авечкі-цені
у нізкія вароты — пад самы небасхіл.
А хвоі абмывалі над возерам калені,
званочкі пазяхалі, бадзёрыў дзівасіл...

Пад кронай не заўважым,
          як да народзін ранку
прапаліць неба — знічкі забыты вугалёк.
Надоўга застанецца на чысціні світанку
адбітку тваіх вуснаў чырвоны матылёк.

* * *

А ноч — што чортаў твар,
і мы — дзве спіцы ў вочку.
З любові пі адвар,
а з вуснаў мрой прымочку.

Скальпірую цябе
і сам жыву наркозам.
Расплачацца ў журбе
каліна пад марозам...

Спячэ хваробу час,
як чэрствы пернік пекар.
Кпіць золак будзе з нас,
бо я — няўмелы лекар...

**ПАСЬЯНС**

*Л. Л.*

...Свечак паганскі жах
б'ецца ў вачах.
Тут па начах
цені грызуць пасьянс,
вяжа сеанс
чарамі зла павук.
Сцішыўся гук.
Стоенасць рук
дорыць цыганка зноў
ў россыпах сноў.
Чары даблытае лёс.
Вось ён прынёс
крык маіх слёз...
Карта дарогу дасць—
кроў яе масць.
Дорыць пасьянс зніча—
волю мяча.
Зычыць у цемры кат
попел ад хат,
келіх і яд,
*мат...*

## СТУДЭНЦКАЕ

Як пацукі, сядзім у норах.
Мы п'ём і бавімся ўначы.
Але яшчэ не вымак порах,
і ты, труба, больш не маўчы!

Нам усміхнецца лес мацёры,
параніць ціш наш звон падкоў.
Хай льецца ў келішак жыццёвы
спакой нядаўніх пацукоў!

## * * *

Бенгальскі бляск вачэй
не апячэ павекі,
у процьмішчы начэй
не знойдуць чалавекі.

Са мною дама крэсць
у зорным пастарунку.
Цэнзура вусны з'есць
у кволым пацалунку.

А маладзік-барон
пануе над абшарам,
і словы забарон
збягуць ад вуснаў пара

Атрутай слёзы піць
я вымушаны ў свеце.
Рабінамі на ніць
наніжа хмары вецер.

А я, як той Харон,
скалечаны журбою,
сабе шукаю трон,
блукаючы з табою.

## ТРОЕ

Расцалуй, слінявая залева,
чыйсьці хіпаваты парасон.
Не глядзі, што сёлета нясмела
лістапады таньчаць «Мендэльсон».

Прыгубляй, вятрыска мой цыбаты,
лужаў непрыстойнае пітво,
а мяне сягоння на гарбату
запрасіла Чорнае брыво.

Ну й хапай за мокрыя абцасы,
лі ваду на новы капялюш.
Я ж яе дамоў хутчэй тым часам
павяду пад ванны цёплы душ.

Толькі ноччу не ўздымай фіранкі,
не ламі ў тузе букет з галля.
Мы сустрэнемся аблудным ранкам:
ты, Паненка Чорная, і я.

* * *

Расплаўленай свечкай сустрэч
хацеў я сцячы сонным раннем
і, гэта назваўшы каханнем,
з абдымкаў тваіх ісці прэч.

Слязіліся словы расстаннем:
— Ты болей мяне не калеч,
як птушку, як хвалю, як рэч,
спакусу лічы дараваннем.

Маланкай крывавай згараю,
а вочы крынічнага краю
блакіцяцца водбліскам раю.

Пад дахам жыццёвага гаю
пачуць у нямоце чакаю:
«Мой любы, цябе я кахаю...»

**АПОШНЯЕ РАНДЭВУ**

У знямелым пакоі між восеньскай цемры
я чакаў апантана сустрэчы з табой,
праклінаючы ноч, і пустыя трамваі,
і прыступкі, што стойвалі знорана ціш.
А калі ты ўвайшла, авацыі свечак
густа скінулі цені на твой парасон.
Я аддана шукаў прахалодныя вусны,—
ты ж казала пра дождж,
пра намоклы асфальт,
ты казала, што недзе разбіліся людзі,
як спалохала ў цемры сірэна «03»
і як цьмяна свяціў у пад'ездзе ліхтар...

Што мне дождж, што мне смерць,
хоць яны недзе блізка,
што мне гэтая ноч, быццам д'яблавы твар?
Зноўку свечкі на зрэнках спакусай
іскрацца,
зноўку свечкі ў далонях згараць,
не паспеўшы сказаць,
не паспеўшы мне нават напомніць,
што расплакаўся дождж,
адчуваючы горыч расстання,
што ліхтар ля пад'езда
хацеў развітацца з табой,
што ўначы прабудзіўся
вой ахрыплай сірэны,
як уздых прадапошні
кахання
твайго...

* * *

Акна падман, мярцвяк-камін,
сухі вазон, счарсцвелы блін,
згарэлы стос, паперы гук,
на крэсле пыл, у дзверы стук.

Нябесны попел, сведка-ноч,
ліхтарняў крык: «Ідзі, не збоч!
У мроях дня — густы ланцуг
цяжарных хмараў-валацуг.

Ціскі шпалер, высокі дах,
пакуты венаў, газы пах.
Удар… Акно без шкла, балкон.
Кіно, дзе сон і гэты скон.

## РАЗВІТАЛЬНЫ НАПЕЎ

Шкло вачэй на марознай карціне
разам з бляскам запалкі крывой
болем бітага месяца гіне,
прагне цемра пакуты тваёй.

Адзінокая шыльда прыпынку
не скіруе зіхценнем цябе
да майго скрыжавання-абдымку,—
па дарозе здасіся журбе.

Цесна стала ў кватэрнай пустэчы.
Упускаю ў акно ветра рух.
Снегам першым кладзецца на плечы
лебядзіны даверлівы пух.

Клін апошні панёс у знямозе
развітальны напеў пачуцця.
Дагарае на цёмнай дарозе
цыгарэтны асмалак жыцця…

* * *

*... мова — адзежа душы...*
Францішак Багушэвіч

Разбіла поўня бубнам ціш
на сценах хмарных веж.
Маркотнік драч, чаму не спіш,
палотны злосна рвеш?

Сутану цёмную нябёс
прапаліць сонца жар.
Рачулкі сівавокіх слёз
не вымыюць абшар.

А на грудзях зямлі драчы
ірвуць кашулю траў.
Хто, беларус, з тваёй душы...
і вопратку сарваў?

**ДАРОГА Ў СКОН**

*Сыноў нарадзіла і выхавала, а яны*
*ад мяне адракліся і ядавітыя джалы*
*языкоў сваіх на мяне высунулі...*
Мялецій Сматрыцкі, «Трэнас»

Адвячорак палае знічом,
цвінтарыцца дарога.
«Мне Христос ваш давно нипочем,
я уйду от родного порога!»

І пайшоў з тым ад хатаў у свет,
як манкурцівы, хлопча,
а Радзімы старой запавет
ён на ростанях стопча.

Праклінацьме не першым цябе,
і памрэш ты, святая.
Вось і золак апошні ў журбе
развітальна світае...

## ТВАРЭННЕ СВЕТУ

З пячорнае похвы дастану
маланкі зашчэрблены нож
і попел рассыплю на рану,
па снезе пайду басанож.

Крывёй саблезубага звера
ад ярасці вочы гараць.
У смерці збавенне — не веру,
не слаўлю і чорную раць.

Адрэжу сланечніку-сонцу
яго галаву-барабан
ды семкамі-зоркамі й сэрцам
засейвацьму ночы дзірван.

А чорт з чалавечага роду
смяецца да сочыўных слёз,
глытнуўшы з лілейнага споду
крынічны кавалак нябёс...

## ЛІСТ

Даўно забылі нашы целы
абдымкі любых рук,
і іх пяшчоту з ветрам дзеліць
на шыі гнуткі лук.

Тваё імя на латах сталі
варожае спіны
пісаў кап'ём, пакуль не сталі
чырвонымі яны.

Уночы абыходзіш сёлы,
каханага завеш.
Не груганы — сядзяць Анёлы
над трупамі ля веж.

Калі заранкі ў пераліве
спадуць з твайго пляча,
знайдзі ў траве маю магілу
ускласці крыж мяча...

## НА РЫЦАРСКІМ ТУРНІРЫ

Ён паранены йшоў да каханкі сваёй,
каб да ног яе меч свой пакласці.
Не дайшоў, не паклаў і, заліты крывёй,
знерухомеў, напоўнены шчасцем.

Ён зваліўся забіты на збіты дзірван
пад уздых ашалелае знаці,
і няскорная святасць атрыманых ран
змыла з цела чужыя закляцці.

Побач з воем ляжаў густассечаны шчыт,
што пад цяжарам сталі не трэснуў,
толькі граззю пакрыўся з-пад гулкіх
капыт
срэбны надпіс на ім: «Уваскрэсну!»

* * *

*Quae medicamenta non sanat — ferrum sanat;*
*quae ferrum non sanat — ignis sanat!*

*(Чаго не вылечваюць лекі — лечыць жалеза;*
*чаго не лечыць жалеза — вылечвае агонь!)*

Выйшла наўе з забытых магілаў,
цвінтарамі халера маніла.
*Зёлкі* вылечаць сэрцы нямыя,
водар лекаў зямных іх абмые.

*Сталь* мячоў наставала напоем,
боль і праўду шукаючы воям.
Князь заціхне... І ўбачыць расплата
карны вырыс забітага брата!

Раптам душы забылі Айчыну.
Жухне край... Што рабіць яго сыну?
Спадзяванні хвароба пасекла.
Хай *агнём* нас вылечвае Пекла.

**ЧАКАННЕ ГЕРОЯ**

### 1. У старой кузні

Здажджыўся кузні шлем гнілы,
які й маланкі не прабілі.
Іх прамяністыя зубілы
тут спрэчкі з кавалём вялі.

Бярвёны струшчыла зямля,
перагнілі асмалкі ў печы,
і недаробак-меч для сечы
не сціснуць пальцы каваля.

Разбіты горан тчэ трава,
магільнай шыльдай сталі дзверы.
Ды аскабалак вечнай веры
хавае ў цемры тут сава...

### 2. Дапамога нябёс

Пярун кальчугу раллі куе,
грукоча сталлю, громам б'е,
маланкай вяжа пластоў луску
і студзіць жар ў вадзе й пяску.

Гатова цвержа. Ды толькі хто
падставіць смерці сваё чало?..
Праб'юць жалеза іржа і час—
не зварухнецца ніводзін з нас.

Кальчуга стала гнілой карой.
Не адгукнуўся на кліч герой.
... Дажджом у глебу, дзе ўстала рунь,
хавае слёзы стары Пярун.

## ВЕЧНАЕ

*Анатолю Сысу*

Абмазаў хтосьці дзёгцем неба,
ступіў да здрады першы Брут.
І коні вогненнага Феба
афарбавалі грывы ў бруд.

Абмазаў дзёгцем хтосьці неба,
як нёба ў высахлай труне...
Зрабіў мастак з калосся хлеба
свой пэндзаль — погань ім кране.

Ён намалюе сонцаў золак,
і стане ў свеце зноў відно.
За фарбу ж д'ябал дзесь з-пад зорак
паднёс у келіху віно.

Бушуе ў целе кіпень сілы,
адыдзе даўкая жуда.
А Бог яму ў адказ цярпліва
ў парваных гуслях кроў падаў...

## УБАЧАНАЕ

Я перайшоў свой хісткі рубікон
адзін, без хмарных легіёнаў.
І вось іду да матчыных акон
разбіты, змораны, стамлёны.

Уночы свечку запаліў, затым
дастаў хатуль свой, складзены гадамі.
З яго чамусьці выплылі, як дым,
чатыры здані, што былі вятрамі.

Адзін — даёнкі шоргат малака
данёс здалёк, другі — каханых
пах валасоў... Ды ўздрыгнула рука
на сплецішчы вузлоў парваных:

мне трэці вецер нагадаў грахі,
чацвёрты свечку захлынуў імглою.
І загубіліся, засноўдалі шляхі,
і горлам кроў, і ў бездань галавою...

## БЕЛЫ ВЕРШ

Вербы дзівосныя косы спусцілі,
песцячы ў возеры гнуткае лісце.
Далеч варушыцца мноствам русалак
і спакушаецца вабнасцю целаў.

Як звечарэе, да шклістасці водаў
я падыду насмяяцца да смерці[4],—
толькі чамусьці, як страшныя сцені,
вылезуць змрочна насустрач тапельцы[5].

Іх растрывожаны шэраг сплятаюць
вербы, якія з вадою зліліся,
бо і зямля наша стала русалкай,
што патанула ў прасторавай сіні...

## СЕЗОН МАРСКОГА АКСАМІТУ

Мае замкі з пяску размываюць нахабныя
хвалі,
у далонях — як рэшта — апошняя гронка
лазы.
Бы арэлі, хістаюцца лёсавы шалі.
І не ўгледзіш, як лёгкія пройдуць часы.

На абрусе вады — пераспелая месяца
мякаць.
І над яблыкам гэтым схіліліся цені дваіх.
Воку свечкі спакусліва ў цемрадзі бачыць
кволых персікаў волкасць на вуснах тваіх.

Дома ж сыплецца лісце на роўнае
бацькава поле,
нібы ў мора апошнія сум-медзякі.
І няроўна цякуць на паперы — як хвалі
прыбою—
ад стырна маёй ручкі
усплёскі-радкі...

[4] Русалкі казычуць сваю ахвяру да смерці.
[5] Паводле народных паданняў русалкі — гэта жанчыны, якія патанулі, тапельцы-самагубцы.

## НЕЧАКАНАЕ

У час дажджу са шкла машыны
знімае дворнік мокры скальп...
Сшываюць шлях шыпеннем шыны,
пырскоча неба на асфальт.

І я з глыбіняў слоўных спехам—
каб не астыгнуць — скарб Нясу:
метафар вехасць, каб над светам
забарадуліліся мехам,
як траваспеў пасля дажджу.

* * *

Кроплю восені са жменькаю лістоў
я пакіну на стале між думак.
Кубак шчырасці й вязанку грайкіх слоў
выпестую ў прыгажосцяў трунак.

І кунегаю ўзлагодзіўшы алтар
вобразамі вытканага верша,
паплыву пад белым ветразем пяра,
бы ў каўчэзе адкрывальнік першы.

Выцалоўваць будуць вусны гукаў спеў—
солад сочыўных слупковых гронак.
Мора фарбаў прынясуць на свой пасеў
крыльцы матыльковыя старонак...

## РАБІНАВЫ ДОЖДЖ

Рабінавы дождж — гэта дождж у агні.
Праносіцца сцюжа на рыжым кані.
Як зловіш яго, то на нашай зямлі
самоту разгоняць з вачэй камяні.

Рабінавы дождж — гэта плач нашых зор,
што сыплюць надзеі на сонны прастор,
што смагнуць па пустках ад самай вайны
ў рабінавай фарбе маўчаць каміны.

Ды толькі аднойчы я бачыў зімой,
як птушка прыдбала крывавы настой,
глытнула са смакам, затым адышла:
у вочках сініцы рабіна расла.

* * *

Цэлую ноч слухаў,
як скача дождж,
ахінаючы душу
патаемным шорканнем,
а раніцай здзівіўся
разлітым калюгам...

## ВОСЕНЬСКІЯ КАРУНКІ

Небыцеюць з мулкім мохам
травы луга ў стозе.
Залацісты спёкся бохан
клёна пры дарозе.

Павуцінне на іржышчы
скошанага жніўня.
На запыленым гарышчы—
цвіль грыбнога ліўня.

Не прытрызніцца бліз хаты
след клыкастай зграі.
Вецер кружыць зухаваты
лістапад над краем.

Абстрыгуцца дрэвы ўночы,
а пасля марозаў
туманы спадуць на вочы
кропелькамі слёзаў...

## ВОСЕНЬСКІ ПРОДУМ

Распранулася пры мне нясмела,
але ў сэрцы схаладнела кроў.
Туманы змачылі сумам белым
касмылі лістотных віхуроў.

Да распусты ўжо ахвоту страціў,
і туга па-іншаму бярэ...
Эх, навошта падарыла маці
мудрасць маёй юнай галаве?!

І жагнуся.
І пяро, як рожкі...
Д'ябал, заўтра пойдуць за табой
дакасіць апошнія валошкі
разам з пазалеташняй травой.

Нейкім ранкам лёд падставіць лёзы
і да моцных коўцікаў дубоў,
і дзяўчаты абстрыгуць скрозь слёзы
касмылі лістотных віхуроў...

**БАЛАДА
АБ КРЫВАВЫХ КАЛІНАХ**

... Ахрыпла галосяць званіцы,
збавіцелю моліцца Храм.
Ваякаў збіраюць байніцы,
а вораг рыхтуе таран.

Ліецца смала на шаломы.
Жанчыны не стогнуць ад ран.
Чакаць не прыйшлі сценаломы—
да цвержы ўжо коцяць таран...

Ды раптам упалі вароты
і вылецеў вершнікаў рой.
Змачыўся крывёю і потам
тужлівы набору сувой.

Тушылі пажары ля Храма,
крычалі са сценаў: «Карай!»
Няскорная Слуцкая Брама
паўстала варотамі ў рай.

Здалося: павіс над зямлёю
бялюткі самотлівы клін.
Зліліся з гарачай крывёю
саспелыя гронкі калін.

Зімой снегіры іх разнеслі
за стрэхі гаёў і бароў.
Па вёсках складаліся песні,
а ў песнях тых — кроў змагароў.

## ГАРАСКОП

У сузор'і маім пераплецены моцнаю вязкай
зоркі сонца і месяца з лепшых Скарынавых
кніг,—
ды не ўбачыць астролагам земляў
маскоўскіх і ляшскіх,
непаўторных аздобаў і гожасці іх.

У сузор'і маім у пярэвітку ноччу
і ранкам
свецяць Папараць-кветка з Радзімы
нязгасным Знічом.
Іх адбіткі жанчыны паўсюдна ўплялі
ў вышыванкі,
іх мужчыны паўсюль баранілі мячом.

А прарочаць чужых гараскопаў ільвы-
скарпіёны,
і няўжо не адчуе прыхільная іхняя рацъ,
што патухнуць адразу й астатніх
сузор'яў мільёны,
калі-толькі зярняты майго дагарацъ.

## ЗІМОВАЯ ЭЛЕГІЯ

Гойдае вецер свой сум на арэлях,
б'ецца, пустэльнік, з інтымнасцю рам,
а на заштораных вокнах-дысплеях
кардыяграмы мігцяцца рэклам.

Мажацца лёд аб гарачую цэглу,
цноціцца ветру парваны плакат.
Зорак галовы на плаху палеглі,
з бронзы сякеру падняў на іх кат...

Дрэвы марозяць раскрытыя спіны,
Мроіцца ім снегапад-заркапад.
На прасціне чырванеюць рабіны,
быццам спакуса нядаўніх дзяўчат...

* * *

Я забяру з сабою
цеплыню ложка,
палкасць твайго сэрца,
жар тваіх вуснаў.
І тады
абмарожаны бэз
не будзе насміхацца
з мяне
ўвесну...

## СІРОЧЫ ЛЁС

Калі заціхла першая зязюля,
мы сталі жыць
па плачу
яе дзяцей.
Галосяць пакінутыя сіроты,
а мы наіўна слухаем
іх словы
палахлівай мальбы.
Безмагільна памерла
старая зязюля,
а бязбацькавічы
галосяць над краем.
Мы ж не суцішаем іх,
а падманліва лічым
свае гады.
Зязюлі спрадвечна прарочаць
народу-падкідышу
сіроцтва...

## АПАКАЛІПСІС

Праламаўся чарэн усёбачнай Галгофы,
і вулканам прарваўся абуджаны гнеў.
Галубамі з каўчэга на Божы пасеў
паляцелі мае ўратаваныя строфы...
Ускалыша й расколе шляхі землятрус,
і тады мірыяды агністых вугольляў
пахаваюць навекі маю Беларусь...

... У апошнюю ноч светалюбны Ісус
прыбівацьме нябёсы цвікамі сузор'яў.

## СЛУПЫ

Воляй прагрэсу распяты целы слупоў.
Ломяцца рукі ад дроту,
ток замест пульсу,
на твары—
каменны спакой.
Так і стаяць:
брат да брата
звязаны моцна.
Далеч кранае
ланцужлівы шыхт.
Ды здарыцца раптам:
ад буры адзін упадзе,—
ніхто не кранецца
дапамагчы...
А мы?..
Стаяць і маўчаць
слупы.

## АЧЫШЧЭННЕ

Ліну нагном вады з вядра на ногі
і прарасту бліз хвоі-удавы.
Узгоркаў жываты зацягнуты дарогай—
папругай на штанах някошанай травы.

Хай мне чупрыну доля раскудлаціць,
хай шчодрасць жылы рве маіх галін,
кашулю з туманоў хай мне распіша маці
дрыготкім полымем даверлівых калін.

Пільнуй, асвер, душы маёй палетак,
ламі, вятрышча, палыновы тын!
Днём хтосьці з жалю зорачак-таблетак
у кубак-студню сыпле нам з вышынь...

## КНІГА НЯМІГІ

Гірляндамі ліхтарняў уплеценая кніга,
зямлі і неба вокладка ў яе.
Ерогліфамі вуліцаў распісана Няміга,
іх вецер па складах расчытвае-пяе.
То ноч яе закрые, то дзень разгорне
знoўку,
і стане прадаўжаць бетонавы канспект
тут летапісец-кран, над плошчавай
старонкай
пяро стальное вежы макнуўшы ў хмуры
свет.

## КРЫЎДЗІЦЕЛЮ І К°

Кахаю — нібыта пшаніца расце,
злуюся — віхор і заломы.
Навошта, сарока, на брудным хвасце
нясеш мне пякучыя словы?..

Даўно мне ўжо суша спаліла душу,
няпраўда — састарыла вочы.
Пярэстыя птахі, я вас папрашу
з палетка жытнёвага збочыць.

Адзін застануся ў сваёй праваце
і жорнам адным памалюся...
Хай толькі і далей пшаніца расце
каханнем па ўсёй Беларусі!

Пакуль жа віхор, і заломы, і я...
і слёзаў разгубленых зерне,
і д'ябальскі строкат, што болей зямля
іржышчу ўсю сілу — не верне.

## РАСПЛАТА

Хоць даўгі й не сплачаны
але ўсё адно
восень, восень-мачыха
стукае ў акно.

Затаптаць стараюцца
у слінявы сум
мяне слота-п'яніца
і віхор-каўтун.

Зіма ж — цешча вечная—
на пліце начэй
разам з зорак печывам
поўні блін пячэ.

Стол накрыўшы посцілкай
будзем есці, піць...
Ці ж навучаць госцікі
як даўгі сплаціць?

## ВАНДРАВАННЕ

Чаўнок маіх вуснаў паволі
вазерца далоні вымерваў.
Пяшчотныя хвалі любові
канаты паслабілі нерваў.

Уверх па рукі тваёй рэчцы
праз самае вусце пляча
да сэрца жадае данесці
ўсю негасць марачка-душа.

А з целам паданца куды мне?
Дажджы за каўнер і снягі...
Няўжо яно ў петлях загіне,
што ўскінуць на шыю шляхі?

І зноўку на казачным чоўне
вяслую ў вазерца далоні,
за злоты халоднае поўні
купіўшы табе пах півоні...

## ХВАЛЯ

Тваё вусны — як хвалі марской
свежы ўсплёск
мой курортны спакой паглынулі.
У падсвечніках стыгне жывіцаю воск
пад усхліпы насценнай зязюлі.

Не хапае грудзей для народжаных слоў,
толькі бровы ў святле, нібы крылы чаіцы...
Ноч збірае з сузор'евых сетак улоў,—
мне ж да самага золку не спіцца.

## НАД ПРОШЧАЮ[6]

Адна турбота мне на ўсё жыццё —
сустрэць у пушчы казачную прошчу.
І хай асіны сыплюць скумаццё,
хай ваўкалакаў чуецца выццё,—
святынь крыніца мне стаіць увоччу.

Праз дзікі буралом паўзе дарога,
заместа хлеба — луста лаваша...
І хочацца спатоліць сэрца Богам,
каб у гербарыі Батаніка старога
не зачаўрэла пустакветкаю зямля!..

[6] Прошча — лясная мясціна, якая лічылася ў народзе святой.

## МАНАЛОГ РАТНІКА

Я заўчора вярнуўся з вайны,
а сягоння ўздымаю штандар —
тут у язвах бязбожнай маны
цэлы абшар.
Заціхае і сонечны спеў,
каб размазаць па свеце паспеў
барву сэрцаў забойда-тыран
з безлічы ран.

Зломіць месяц у бойцы свой рог
Заблукаю па шнарах дарог.
І знясіліцца ў сечы рука,
як клык вепрука.

А назаўтра вярнуся з вайны.
На далонях — крывавасць віны
мне даруе стагоддзямі лес
стратаю слёз.

* * *

Хто за мяне маліцца стане,
калі з разбітай галавой
закончу свой апошні бой
пад Грунвальдам ці дзе ў Афгане?..

Бліз напалоханай крынічкі
на адзічэлым кургане
дзяўчына п'яная засне —
прымяўшы кветкі ўсе спаднічкай.

У пустагорным акіяне,
дзе сонцам спалены абшар,
дзе ўзмоляцца: «Аллах акбар!» —
хто за мяне маліцца стане?..

Ды, пераксціўшыся, Айчына
на месца, што пакінуў я,
каб не спусцелася зямля,
сабе народзіць зноўку сына...

1990

## МЕТАМАРФОЗЫ

Я марыў зрабіцца кветкай
у час веснавога дажджу,
ды птушкай пад хмарнаю клеткай
з крылом паламаным сяджу.

Зрабіцца я птушкаю марыў
у мяккіх абдымках нябёс,
а стаў чалавечым падманам —
нязгрэбай, не вартым і слёз.

І быць чалавекам імкненне
збудзіла мяне кагадзе —
зламанае кветкі маленнем
мой цень па абшарах ідзе...

## ЛЕС

Вы бачылі, як гасне запалка,
аддаючы полымю
апошнія клеткі
свайго цела?
Вось так і зямля,
якой надакучаць звадкі людскія
і бруд,
ператворыцца ўміг
у дрыготкае агністае свяціла
і згарыць.
А нейкі сатуранін
падумае са змрочнага хмарачоса,
што нехта кінуў з верхняга балкона
запалку...

## НАСТРОЙ

Начную кашулю снегу
спрасонку, тумане, не рві.
Дары лепей, браце, кунегу
замерзлай дзяўчыне-зямлі.

Цыганак пазваць лепш у хату
і там зацягнуць «чхаваро»,
не бачыць, як снежнаю ватай
зямля прачышчае нутро;

не помніць,
            што ў Хойніках — хвоям
сам месяц кранаўся чубоў,
што брагінскім бражным напоем
валілі і хлопцаў-дубоў;

не чуць і варонаў гарлатых,
і бруднага ветру ныццё...
Пазваць бы цыганак у хату —
да золку гадаць пра жыццё.

## ГАДЗІННІК

Злучана хмарка з зямлёю
сцёкавай трубой—
чым не падобны да пясочнага
гадзіннік,
што нашыя вышэйшыя
мары і надзеі
пераводзіць
у рэальнасць быццёвых лужын?..

## АМАЛЬ ТЭАРЭМА

Мастацтва чыстага няма,
як і мастацтва фальшу й бруду.
Бо гэта ж — як у цэрквах Буда,
як прычашчэнне без віна.

## НАСТАЎНІКУ

Макулатурны стос трухелі
нячытаны накрые том...
Адкінь, мой лёс, сп'янелы келіх,
са мною горыч пі нагбом.

Хай за спіною рвуцца стрэлы,
калее кроў на скавышы—
адрэтушуем край схварэлы
жывой паэзіяй душы!..

## АРХІДЭІ

Прыйду з букетам дзікіх архідэй
у час вайны нябачнай і зрушэнняў,
не раб, не гладыятар, не вандэй,
каб піраміду выкласці з камення...

Не маю нават гроша за душой,
ні мараў новых, ні старых ідэй.
Дазволь зайсці — ты бачыш, я прыйшоў
з букетам дзіўным дзікіх архідэй!

А што былі Егіпет, Русь і Рым —
не шкадаваць жа разам па начах.
Мы з гэтай свечкай стомленай згарым,
схавае Прыпяць парыванняў прах.

Я зведаю ўсе сілы на зямлі,
вось толькі рукі з холаду сагрэй
і з іх, абветраных і зрэзаных, вазьмі
букет стамлёных дзікіх архідэй.

## ЗАРУЧЫНЫ

Нехта грэбень вясёлкі ўкалоў
у дажджу срэбназвонныя космы.
Ну, а я табе клін журавоў
уплятаю ў аблокавы кроены,

я ўнітоўваю промні — каб мы
ручнічок мелі вышыты, тонкі.
... Нехта кліпсы туманам абмыў
і рабіне надзеў, быццам гронкі.

Маладзік — хай падковай каню,
за ляйчыну — Шлях Млечны.
І ў дзверы!
Ручка-сваха каханку маю
прынясе ў чысты ложак паперы...

І тады Нехта прыйдзе ў мой сховў,
каб фату яе разам панесці.
І народзяцца першынцы слоў,
і прамовяць: «Мы — Боскія дзеці».



## ЗМЕСТ

Пашкевіч А.

Нябесная сірвента: Вершы / Прадм. А. Лойкі,— Мн.: Маст. літ., 1994.— 94 с.— (Першая кніга паэта).

ISBN 5-340-01419-3.

Сірвента — песня на ваяцкі лад у старажытнасці. Яна ўслаўляла стойкасць ратнікаў, дух змагання, ваярскую чыннасць. Нябесная сірвента — гэта яшчэ і боль за пакуты роднай зямлі, словы любові да Мінуўшчыны, да Бацькаўшчыны, да ўсяго існа беларускага...

8820600000—110
П________________________ 59—94/
т 302(03)—94

ББК 84(Беи)6

Літаратурна-мастацкае выданне

**ПАШКЕВІЧ АЛЕСЬ АЛЯКСАНДРАВІЧ**

**Нябесная сірвента**

Вершы

Рэдактар К.Я Жук. Мастак Н. Л. Салаўёва.
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава.
Тэхнічны рэдактар /. І. Дуброўская. Карэктар /. М. Паланейчык.

Здадзена у набор 24.03.94. Падп. да друку 01.09.94. Фармат 70 X 90 1/32 '
Папера кн.-часоп. Гарнітура літаратурная.
Афсетны друк. Ум. друк. арк.
3,51. Ум. фарб.-адб. 3,73. Ул.-выд. арк. 2,11.
Тыраж 1500 экз. Зак. 901.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Міністэрства культуры і друку
Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600,
Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
паліграфкамбінат МВПА імя
Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.